# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ПАРЫЖСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У панядзелак распачалася ў Цэнтры міжнародных канферэнцый у Парыжы канферэнцыя, якую прадбачвае парыжскае пагадненне аб спыненні вайны і аб міры ў В'етнаме.

19 артыкул гэтага пагаднення гаворыць:

«Бакі згаджаюцца на скліканне міжнароднай канферэнцыі на працягу 30 дзён ад падпісання сённяшняга пагаднення з мэтай зацверджання падпісаных пагадненняў, гарантыі заканчэння вайны, захавання міру ў В'етнаме, пашаны асноўных нацыянальных правоў в'етнамскага народа і права паўднёвых в'етнамцаў на самавызначэнне, а таксама з мэтай садзейнічання загарантаванню міру ў Індакітаі». У другой частцы гэтага артыкула гаворыцца, што склад канферэнцыі быў запрапанаваны ДРВ і Злучанымі Штатамі, «дзейнічаючымі ад імя бакоў, удзельнічаючых у парыжскай канферэнцыі ў справе В'етнама».

Польскую дэлегацыю на канферэнцыю ў справе В'етнама ўзначальвае міністр замежных спраў Стэфан Альшоўскі.

### ПАСЛАННЕ НІКСАНА

Прэзідэнт Ніксан накіраваў у кангрэс трэці раздзел паслання аб абстаноўцы ў краіне, прысвечаны эканамічнай сітуацыі ЗША.

У пасланні гаворыцца, што важнейшай унутрыэканамічнай праблемай ЗША з'яўляецца беспрацоўе. Прэзідэнт прызнаў, што ўзровень беспрацоўя ў краіне, які складае 5 прац. працаздольнага насельніцтва, «усё яшчэ вельмі высокі».

Другой нявырашанай праблемай застаецца інфляцыя. Прэзідэнт перасцерагае, што ў лютым і на працягу яшчэ некалькіх месяцаў амерыканцаў чакаюць непазбежныя вострыя скачкі розьнічных цэн на прадукты. На жаль, сказаў прэзідэнт, урад не можа прыняць ніякіх мер, якія маглі б мець рашаючае ўздзеянне на цэны ў бліжэйшыя месяцы.

### ШТАБНАЕ ВУЧЭННЕ

У адпаведнасці з раней ўзгодненым планам сумесных мерапрыемстваў Аб'яднаных узброеных сіл на тэрыторыі Сацыялістычнай Рэспублікі Румыніі ў перыяд ад 12 па 21 лютага было праведзена штабнае вучэнне на картах.

### АБ ДЭВАЛЬВАЦЫІ ДОЛАРА

Урад ЗША накіраваў у кангрэс законапраект, які прадугледжвае павышэнне цаны на золата з 38 да 42,2 долара за ўнцыю. Гэта абазначае дэвальвацыю долара на 10 працэнтаў у адносінах да валюты іншых буйнейшых капіталістычных краін. Гэтае запытанне з'яўляецца фармальнасцю, бо дэвальвацыя долара на сусветных фінансавых рынках стала фактам.

### АДМОЎЛЕНА

Міністэрства замежных спраў КНР адмовіла прадстаўнікам пасольства СССР у Кітаі ў дазволе зрабіць паездку ў гарады Шэньян, Харбін, Чанчунь і Дальні для ўскладання вянкоў у 55-ую гадавіну Савецкай Арміі на магілы савецкіх воінаў, якія загінулі ў барацьбе супраць імперыялізму і рэакцыі, за вызваленне Кітая. (ак)



## БССР

### ПРЭМІІ ПІСЬМЕННІКАМ

Беларускія пісьменнікі Алесь Адамовіч і Уладзімір Караткевіч сталі лаўрэатамі рэдакцыі «Дружба народов», якая штогод прысуджае літаратурныя прэміі за найлепшыя аповесці, апавяданні, нарысы і цыклы вершаў аб сучаснасці і за лепшыя пераклады савецкай літаратуры. На ўвагу рэдакцыйнай калегіі часопіса заслужылі, між іншым. «Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча і апавяданне Уладзіміра Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі».

### ПРА КАПЕРНІКА

Загадчыца чытальнай залы Д. Балтрукевіч у раённай бібліятэцы ў Бераставіцы правяла гутарку, прысвечаную 500-годдзю з дня нараджэння Мікалая Каперніка.

Калі гутарка ідзе пра вялікага польскага астранома, дык варта прыгадаць, што яшчэ ў 1969 годзе Мінскае выдавецтва «Вышэйшая школа» надрукавала зборнік В. Д. Чысцякова «Рассказы об астрономах» (на рускай мове). Ёсць там расказ і пра Мікалая Каперніка.

І яшчэ пра Каперніка. Тыднёвік «Літаратура і мастацтва» ад 16 лютага гэтага года, адзначаючы 500-годдзе з дня нараджэння таго, што «спыніў Сонца і зварушыў Зямлю», надрукавала артыкул Пятра Стэфановіча пра вялікага польскага астранома, у якім аўтар характарызуе рэвалюцыйнае значэнне Капернікавай тэорыі ў сусветнай навуцы.

### МХАТ-АЎЦЫ Ў МІНСКУ

У Мінску пабываў на гастролях праслаўлены МХАТ (Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр), адзін з лепшых тэатральных ансамбляў у свеце. Мінчане мелі магчымасць убачыць самыя лепшыя спектаклі з рэпертуару МХАТ-а. Сярод іх «Шостае ліпеня» М. Шатрова, «Дні Турбіных» М. Булгакава і «Апошнія» М. Горкага.

### МАКАЁНАК У КУПАЛАЎСКІМ

У Беластоку зараз карыстаецца вялікім поспехам п'еса беларускага драматурга А. Макаёнка — «Трыбунал». А вось у Мінску Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паставіў ужо новую камедыю гэтага таленавітага аўтара — «Таблетку пад язык». Гэта вясёлая (як заўсёды ў Макаёнка) камедыя-рэпартаж аб жыцці ў калгасе «Маяк». Закранае яна зусім сучасныя і істотныя праблемы беларускай вёскі.

### ВОЛЬГА КОРБУТ У ФІЛЬМЕ

У Гродна прыехала кінагрупа англійскай тэлекампаніі «Гранада». Рэжысёр Джон Шэпард і аператар Джордж Тэрнер рашылі зняць фільм пра каралеву мюнхенскай алімпіяды. Вольга Корбут з'яўляецца цяпер студэнткай Гродзенскага педінстытута. Фільм пра яе будзе гатовы пад канец красавіка або на пачатку мая. Мы таксама зможам паглядзець яго, бо будзе ён паказаны гродзенскім тэлецэнтрам.

У Гродна бесперапынку ідуць пісьмы з цэлага свету. Часта яны адрасаваны так: «Вольга Корбут — СССР». (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО І ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

20-га лютага адбылося супольнае пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада, на якім былі разгледжаны ўступныя прапановы, узятыя з «Рапарту аб асвеце ПНР». Ажыццяўленне гэтых прапаноў павінна прынесці ўдасканаленне асветнай сістэмы і паляпшэнне працы ў асветна-выхаваўчых установах. Міністр асветы і выхавання, вышэйшага школьніцтва і тэхнікі быў абавязаны да ўвядзення абавязковай сярэдняй адукацыі.

З асаблівай увагай была абмеркавана справа дысцыпліны на будаўнічых прадпрыемствах.

На заканчэнне пасяджэння Палітбюро ЦК ПАРП разгледзела справы падрыхтоўкі да ваяводскіх справаздачна-выбарных партыйных канферэнцый. Асноўнай задачай ваяводскіх партыйных канферэнцый будзе ўсебаковая ацэнка грамадска-гаспадарчай дзейнасці ў паасобных ваяводствах і прыняцце задач на бліжэйшыя гады. Партыйныя арганізацыі павінны ліквідаваць існуючыя недахопы ў галіне грамадскай дысцыпліны, арганізацыі працы і кіраванні.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

23 лютага адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім была разгледжана комплексная праграма развіцця аховы здароўя і грамадскай апекі да 1990 года. Вялікае значэнне для паляпшэння аховы здароўя будзе мець нацыянальны фонд аховы здароўя. Апрача таго, Прэзідыум урада абмеркаваў справы, звязаныя з прадукцыяй самаходаў для вясковага транспарту, забеспячэннем сыравінай папяроснай прамысловасці, механізацыяй працы пры капанні бульбы, а таксама з рэалізацыяй асноўных інвестыцыйных задач і будаўніцтва ў гэтым годзе.

### СУСТРЭЧА Ў Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

21 лютага І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч правялі сустрэчу з прадстаўнікамі Цэнтралі сельскагаспадарчага кааператыва «Самопомоц Хлопска». Старшыня праўлення ЦРС Ян Камінскі паінфармаваў аб дасягненнях кааператыва і аб планах працы ў галіне развіцця спулдзельчасці забеспячэння і збыту. Мае гэта вялікае значэнне для развіцця сельскай прадукцыі. Неабходна мадэрнізаваць старыя пункты скупкі сельскагаспадарчых пладоў і хатняй жывёлы.

### НАРАДА ПЕРШЫХ САКРАТАРОЎ ГМІННЫХ КАМІТЭТАЎ ПАРП

19 лютага адбылася ў Варшаве нарада першых сакратароў гмінных камітэтаў ПАРП і начальнікаў са 100 гмінаў, на якой былі абмеркаваны задачы гмін у развіцці вёскі і сельскай гаспадаркі. Удзельнікі нарады знаёміліся таксама з задачамі партыйных арганізацый у вясковым асяроддзі.

### V З'ЕЗД ЗМВ

Закончыўся V з'езд ЗМВ. Было вырашана перайменаваць назву арганізацыі ў Саюз сацыялістычнай сялянскай моладзі (ЗСМВ). Старшынёю Галоўнага праўлення ЗСМВ паўторна быў выбраны Т. Галадай. (ця)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРП

Адбыўся Пленум Ваяводскага камітэта партыі. Асноўнай тэмай была канцэпцыя грамадска-гаспадарчага развіцця беластоцкага раёна да 1980 года. Дакумент такога развіцця апрацаваў і прадставіў Пленуму Прэзідыум ВРН. Апрацавала яго група гаспадарчых экспертаў і грамадскіх дзеячоў. За «Газетай Беластоцкай» падаем галоўныя напрамкі дзейнасці ваяводскіх улад да 1980 года. Гэта: як будзем жыць і працаваць у 1980 годзе і потым, якім чынам можам хутка і з карысцю для сябе і ўсяе краіны ўласнымі сіламі ліквідаваць дыспрапорцыі, якія аддзяляюць нас ад іншых у краіне. якое з нашых натуральных багаццяў можам даваць іншым.

### БЕЛАСТОЧЧЫНА НАЙХУТЧЭЙ КУПЛЯЕ ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

Як сон, прайшоў той час, калі трэба было гаспадароў намаўляць, каб куплялі ўгнаенні. Цяпер на Беласточчыне гаспадары самі стараюцца як найхутчэй іх купіць. Беласточчына займае першае месца ў куплі ўгнаенняў. Бывае аднак, што патрэбных гаспадарам угнаенняў не хапае. Напрыклад, у Бельскім і Высокамазавецкім паветах забракла патасовых угнаенняў. Гаспадары ахвотна купляюць многаскладовыя ўгнаенні, на жаль ёсць іх мала. Па аператыўнасці ў куплі ўгнаенняў найлепшыя паветы ў ваяводстве гэта: Элцкі, Алецкі, Галдапскі, Сэйненскі, Высокамазавецкі і Граеўскі.

### ПАСЛЫ АБ ЗЯМЛІ

Ваяводскія паслы на сваім чарговым сходзе пазнаёміліся з інфармацыяй Прэзідыума ВРН аб тым, як рэалізуецца пастанова з 24.І.1968 года наконт спалучэння і абмену зямлі і планаў загаспадарвання дзяржаўнага фонду зямлі. У выступленні пасла Здзіслава Куроўскага — І сакратара ВК ПАРП і іншых паслоў гаварылася аб тым, што трэба смялей пераймаць слабыя, занядбаныя гаспадаркі ў дзяржаўны фонд зямлі.

### ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ АРМІІ

З нагоды 55-ай гадавіны ўзнікнення Савецкай Арміі ва ўсім ваяводстве — у клубах, святліцах, дамах культуры адбываюцца вечары, прысвечаныя гэтай слаўнай арміі. Яны, як заўсёды, карыстаюцца масавым зацікаўленнем жыхароў. А ля помніка Удзячнасці ў Беластоцкім парку дэлегацыя рабочых паложыла вянкі і букеты кветак.

### БЕЛЬСКІЯ «ЛЬНЯНЫЯ» РАЦЫЯНАЛІЗАТАРЫ

На рацыяналізатарскі конкурс, аб'яўлены ў 1972 годзе Ваяводскай акругай прафсаюза працаўнікоў баваўнянай прамысловасці, Бельская рашарня прыслала шэсць рацыяналізатарскіх прапаноў. Да найбольш актыўных рацыяналізатараў бельскага «Ленполю» належаць: Васіль Раманчук, Язэп Віткевіч, Антон Жэгуня і Васіль Ігнацюк.

### КОЛЬКІ Ў НАС ТЭЛЕВІЗАРАЎ?

Беласточчына мае ўжо 158 тысяч радыёпрыёмнікаў (74 тысячы на вёсцы) і 133 тысячы тэлевізараў (48 тысяч на вёсцы). Асобам, якія з'яўляюцца слухачамі тэлевізійнага сельскагаспадарчага тэхнікума, рамонт тэлевізараў выконваецца без чаргі. (вл)




**Niedziela 4.III.**
7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.00 „W starym kinie” — „Komedie Chaplina”. 11.10 Gra Reprezentacyjna Orkiestra Śląskiego Okręgu Wojskowego. 11.40 „Przemiany”. 12.10 Dziennik. 12.25 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 13.40 Dla dzieci: L. J. Kern — „Prawo Karampuka” odc. V („Karampuk”). 14.05 „Piórkiem, węglem i pastelami”. 14.35 „W Klubie” — wieczór III. 15.15 „Mikołaj Kopernik” cz. IV — „Dziedzictwo i legenda”. 15.45 „Kryteria” 16.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Pokazy mistrzów. 17.30 „Wielka gra” 18.20 „Piosenka dla Ciebie”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wojna i pokój” — film fab. radz. cz. II — „Natasza Rostowa”. 21.40 PKF. 21.50 Magazyn sportowy. 22.30 Koncert rozrywkowy TV NRD.

**Poniedziałek 5.III.**
12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec”. 17.15 Dla dzieci: „Obserwatorium”. 17.25 „Echo stadionu”. 17.50 TV Kurier Olsztyński. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: F. Garcia Lorca — „Dom Bernardy Alba”. 21.25 „Zapis pamięci”. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.25 Słynne arie operowe śpiewa Andrzej Hiolski — baryton.

**Wtorek 6.III.**
„8.00 „Wojna i pokój” — film fab. radz. cz. II — „Natasza Rostowa”. 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi”. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — „Skamandryci i Awangarda”. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — B. Brecht „Matka Courage i jej dzieci”. 12.45 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — Z. Krasiński „Nie boska komedia”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 „Ballady ludowe” — probram TV Czechosł. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 POLITYKA DLA WSZYSTKICH. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Ścigani przez śmierć” — film fab. franc. 21.55 „Kontakty”. 22.25 „Kominiarz przynosi szczęście” — program rozr. radz. 22.45 Dziennik. Kronika Zimowych Igrzysk Młodzieży Szkolnej w Zakopanem. 23.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 23.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin.

**Środa 7.III.**
8.20 „Ścigani przez śmierć” — film fab. franc. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Pokolenie Kolumbów”. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Życie w Biskupinie”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 14.00 „Wybieramy zawód”. 15.20 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Szkoła Jungów 2000” („Latający Holender”) 17.35 „Informacje, Towary, Propozycje”. 17.55 „Sylwetki X Muzy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Studio 63: M. Żuławski — „Ker” („Opowieści mojej żony”). 20.15 „W kraju spokojnej wody” — film franc. („Szpieg cesarza”) odc. IV. 21.10 „Świat i Polska”. 21.55 „Z ludowej szkatuły” („Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza”). 22.30 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe. Kronika Zimowych Igrzysk Młodzieży Szkolnej w Zakopanem oraz fragmenty meczu Dynamo (Kijów) — Real (Madryt).

**Czwartek 8.III.**
8.55 „W kraju spokojnej wody” — film franc. („Szpieg cesarza”) odc. IV. 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Cyprian Kamil Norwid”. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — E. Orzeszkowa „ABC”. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Bertold Brecht”. 14.00 Matematyka w szkole: „Rozszerzanie zakresu liczb. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 PKF. 17.55 Program filmowy. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Program publicystyczny. 19.15 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Złoty napoleon” — film fab. ang. 21.05 „Gdyby o jeden kwadrans”. 21.35 „Ekspres nr 21”. 22.00 Dziennik. 22.20 „360 stopni wokół Marisoll” — program rozr. hiszp. 23.10 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 23.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika.

**Piątek 9.III.**
9.00 „Złoty napoleon” — film fab. ang. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Szlachetne zdrowie”. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Polska — państwo bałtyckie”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.25 „Nie tylko dla pań”. 17.45 „Piosenki w mundurze”. 18.15 „Turystyka i wypoczynek”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Za kierownicą”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ballada o ścinaniu drzewa” — film TVP. 20.40 Panorama Tygodnia. 21.20 Teatr TV: W. Brydak — „Gra”. 22.20 Dziennik. 22.40 Kronika Mistrzostw Świata w lotach narciarskich.

**Sobota 10.III.**
8.00 „Ludzie w hotelu” — film fab. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Na dachu świata”. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Wśród wysp Oceanii”. 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik 16.40 Teatr Młodego Widza: St. Grochowiak — „Bestia i Piękna”. 17.45 „Spotkania z przyrodą”. 18.35 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Zapraszamy na sobotę wieczór”. 21.25 Dziennik. 21.45 Wiadomości sportowe. Kronika Halowych Mistrzostw Europy w lekkiej atletyce. 22.00 „Ludzie w hotelu” — film fab.




**Piątek, 2 marca**
8.15 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Jazda parami. 10.00 Szkoła szachowa. 11.30 Filmy dokument. 14.15 Program dnia. 16.20 Film lalkowy. 17.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Kobiety. 19.00 Czas. 19.30 Operetka. 21.00 Panorama nowin.

**Sobota, 3 marca**
7.00 Program dnia. 7.30 Śpiewa Mikołaj Kondraciuk. 9.15 Przegląd międzynarodowy. 11.00 Stare filmy. 12.30 Białe i czarne. 12.50 Film dokument. 13.30 Spotkania muzyczne. 14.30 Filmy animowane dla dzieci. 15.00 W świecie zwierząt. 16.10 Piosenka — 73. 16.40 Mistrzostwa w jeździe figurowej na lodzie. Tańce. 19.00 Czas. 19.30 Film fab.

**Niedziela, 4 marca**
7.00 Program dnia. 9.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Mężczyźni. 10.15 Koncert zespołu „Rosyjska bałałajka”. 11.00 Międzynarodowe zawody zapaśnicze. 14.00 Klub filmowy. 15.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Występ pokazowy. 18.00 Ekran dokumentalny. 19.00 Czas. 19.45 Film fab. 21.05 Zimowe mistrzostwa lekkoatletyczne ZSRR.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 170

* * *

Мы двое змесцімся
у простым слове — згода
і свету перайначыць мы не хочам
мір ціхім хатам
і мір ціхім водам
прарочым
дзяўчына сонцу кланяйся ў пояс
прасі каб слоў нам цёплых
дало болей
не быць нам у нутры каня
з нязгоднай Трої
а вечна быць у цёплым лоне поля
усё тваё усё маё
ёсць нашым
да ўсіх людзей яно належыць
гарыць зялёным полымем
Падляшша
з зялёным сцягам Белавежы

*Алесь Барскі*



* * *

*Скібы, скібы, скібы*
*— поўны бульбы,*
*падземельныя кветкі*
*клічуць ласкава:*
*стань на калені!*
*Бульба і камені,*
*здзертыя рукі,*
*дождж за каўнер л'е,*
*а людзі капаюць.*
*Бялеюць мяшкі,*
*кошыкі цяжаць,*
*у балоце — пяску*
*рукі гортаюць хутка,*
*хлеб «у абед» адвячоркам бяруць.*
*Першы іней — і цёмна,*
*апошняя бульбіна ў возе.*
*Ные ўсё цела, здзертыя рукі...*

*Вераніка Леанюк*



*АСТАП ЛАПСКІ, украінскі паэт, пражываючы ў Польшчы, журналіст Польскага радыё ў Варшаве.*

* * *

*Чагосьці часам хочацца*
*Як быццам сеяць жыта*

*Калі нудзьга*
*Асабліва ў нядзелю*

*Баюся*
*Бога далечыні знікаючай*

*Прычыніць мо фортачку*
*Каб павеяла здаровым*

*Словы словы*
*Як сумна ў вашай сям'і*

*Калі вось так памірaеш*
*Лагічнай смерцю*

САРОЧКА

З пажару ацалелі толькі рукавы
Ад сэрца йшоў агонь — і нутро згарэла

Вышывала мама ад усёй душы
Кветкі-васілёчкі з нашае мяжы

З ёю з маім лёсам лазіў у зубах
Рукавы ў скрыні полымем гараць



* * *

Не п'ючы
Я па цвярозаму твару

Бо патрэбна
Незвычайна аўтэнтычнасць

Каб пад новы год
Паўтараць старыя праўды

Няма нас
Без нас

Існуе
Сумуе толькі назва

З буслінага палёту
Гляджу на свет вачыма дзіцяці

*З украінскага пераклаў Ян Чыквін*



* * *

Ён хварэў
На хваробу
Невялікую
Ён шукаў
Толькі
Крыху праўды
І пакалечыўся...
Ён не знаў
Што хвароба
Нішчыць яго цела
Толькі кропля крыві
Што асталася за яго следам
Чырванее
І
Крычыць.

*Надзея Артымовіч*

ПОЛЕ Ў ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ЗІМЫ

як здохлы кот
замяўчыць чорнай грудкай
памахае праменнем сонца
ў адубелай вадзе
і застыгае ў бязруху
сняжынак

потым ужо
ў кажусе
доўга перажоўвае
сваё нараджэнне

*З. Сачко*

# П'ЯНЫ СВЕТ

*Усё круціцца*
*дзень*
*ноч*
*месяц*
*сонца*
*зямля*
*неба*
*свет п'яны*
*ў тэмпе шалёным*
*усё хутчэй і хутчэй*
*ідзе*
*чалавек*
*часу не хапае*
*агледзецца за сябе*
*на дарогу*
*каторай прайшоў*
*ці там добра*
*ці парадак*
*не, там не дакончана*
*там...*
*ледзь не пуста*
*непарадак*
*галасы*
*крыкі*
*моладзь*
*старыя...*
*там пакінута*
*усё хутчэй і хутчэй*
*зноў*
*не можна*
*ў месяцы на хвілінку*
*спыніцца*
*не можна*
*бо стаяць*
*гэта ісці назад*
*ногі рытм выбіваюць*
*лева... лева...*
*хутчэй*
*ужо свет высока*
*над зямлёй*
*блізка неба*
*А ўсюды балаган*
*другі раз зачынаць*
*і рабіць*
*ад пачатку*
*да канца*
*трэба.*

*Ірэна Баравік*



* * *

Так хочацца крыкнуць
на ўвесь голас
перамагчы крыкам
крык сэрца
і смяяцца па-дзіцячы
хочацца
выжлабіць
прастор пад нагамі
і не шкада
прошлага часу
які гоняць
сляды
босых ног.

*Мар'я Семянюк*

# ГУТАРКА

Яна зайшла па справе.

— Не ведаю, — адказаў. — Не ведаю. Няма жонкі, выехала да маці... Сядайце...

Яна села.

— Як вам сказаць? — справа, з якой прыйшла, не спадабалася, і ён пачаў гаварыць перакануча і няпраўду. Паміж словамі: яе ногі, з такімі павінны быць медсёстры, у санаторыях раматуснікаў, так, там перад усім...

Яна расказала яшчэ раз.

— Я не разумею вас, — не дачуў ён: змарнуе ногі, выйдзе замуж, змарнуе.

Не дачуў, надта ўважліва пагледзеў ёй у лоб: апека, абарона, ахвярніцтва, чаго не патрабуе, брыдкае, злое. Не, дабро і зло існуюць аднолькава і ці не дакладней было б гаварыць аб барацьбе паміж імі за больш сабе?

... — Я займаю вам час, — гаварыла: прыгожыя дзяўчыны не павінны выходзіць замуж, выходзячы — яны допускаюцца несправядлівасці, быццам грошы, якія крыўдзяць таго, хто іх не мае.

... — Маю рацыю? — запытала.

— Што? — і загаварыў. — Так, напэўна, я думаю, усё гэта так... (Вярнуўся: убілі ў галавы, што прыгожае і добрае патрабуе апекі; няпраўда, хочам яго больш ад другіх!).

— Спадзявалася: мая рацыя!

— Што? — ...«хочам... больш ад другіх»... — Ага, так — так...

Яна паглядзела на хворага.

— Выбачце, — сказала. — Мне пара. Устала.

— Да пабачэння.

— Да пабачэння.

Пайшла.

Ён праводзіў яе і, калі яна зышла ўніз да пад'езду — вярнуўся ў кватэру, замкнуў дзверы, зайшоў у пакой. Сеў у крэсла, у якім яна сядзела: яшчэ цёплае.

*С. Яновіч*

НА БЕЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ

# БУДЬ СОБОЮ

Ніне Салавей

* * *

*Як у снові*
*— вспоміны,*
*— вспоміны,*
*— вспоміны.*
*— Ты,*
*— Ты,*
*— Ты.*
*Роскінуты на подушці волосы . . . . .*
*губы,*
*груді*
*. . . . . жар тіела*
*Мы —*
*мы —*
*мы.*
*Гэсты значат буольш чым слова,*
*Каждый дрэшч —*
*помножае роскош,*
*Каждый пульс —*
*вызволяе новэ*
*досюоль*
*нэпознанэ.*

* * *

*Дзісь повіекі,*
*змучаны нэпроспаною ночою,*
*повторают Твое імье,*
*Груді —*
*розрывают нэсказаны Тобіе слова*

* * *

*Будь собою*
*— НЕЗМІЕННА —*
*— НЕПОЗНАНА —*
*завшэ тая сама*
*і моя.*

Іван Кірызюк

(Працяг са стар. 1)

# САЛАМЯНАЕ БАГАЦЦЕ



*Вось яно, саламянае багацце нашых сялян.*

У кантору заходзіць старшы магазінер Станіслаў Весялоўскі.

— Як там сёння? — пытае яго кіраўнік.

— 120 фурманак ужо адправіў, — паясняе магазінер і сам пытае: — Што з вагонамі?

— Абяцалі, — гаворыць кіраўнік. — Грузіце аўтамашыны і адпраўляйце на станцыю.

— А са станцыі — куды? — уключаюся да іх дзелавой гутаркі.

— Са станцыі — у свет, — гаворыць кіраўнік і хітравата ўсміхаецца. Ведае, што буду пытаць, як разумець гэты «свет».

Аказваецца, што для вырабаў нашых сялян «свет» — гэта перш за ўсё Францыя і Англія.

Мяркую: там гандаль у прыватных руках. Купец-прыватнік, калі не будзе ўпэўнены, што зробіць дасканалы «бізнес», тавару не купіць. А тут давай, просяць як найбольш!

— Адно толькі бяда, — сумуе кіраўнік, — што вось у гэтым годзе салома ад дажджоў пачарнела і прыгажосць сваю страціла.

Аднак «бізнес» на гэтым не пацярпеў. Як ён выходзіць «на здароўе» нашым гаспадарам? Не раз даводзілася чуць, што тыя, хто займаецца «матамі», сярпом яшчэ жнуць жыта, бо просценькай саломы патрабуюць.

Тут кіраўнік Захарчук раіць шукаць мне адказу на панадворках Васіля Куны з Міклашоў, Васіля Васілюка з Канюкоў, Леакадзіі Яварук з Грыгароўцаў...

— Паглядзіце, — усхвалявана гаворыць кіраўнік, — як яны адбудаваліся, якія ў іх хаты і гаспадарчыя будынкі, якія машыны і прылады. Ды ёсць за што! Актыўныя нашы пастаўшчыкі зарабляюць у нас не менш 50 тысяч злотых у год. Гэта ж звыш чатырох тысяч у месяц! Амаль дырэктарская месячная зарплата. А здараецца, што некаторыя да ста тысяч патрапяць дацягнуць. Не, мы гэтага закіду, што прапагандуем адсталасць, не прымаем, бо ён нас крыўдзіць! — з абурэннем сцвярджае Захарчук. І яшчэ дадае, як яны заахвочваюць членаў свайго аб'яднання, каб выкуплялі мінеральныя ўгнаенні, як дапамаглі абсталяваць святліцу ў Кошках, як...

*В. Рудчык*
*фота аўтара*



*Загружаныя саламянымі вырабамі фурманкі чакаюць сваёй чаргі на панадворку бельскай базы.*

# „ІНТУРЫСТ" ПРАПАНУЕ

«Інтурыст» — гэта адпаведнік нашага «Орбісу». І хаця вядома, што турызмам, у тым ліку міжнародным, займаюцца ў нас розныя арганізацыі (Грамада, Турыст, Спорт-турыст, Ювентур і Альматур) вядучая роля належыць «Орбісу» — Польскаму бюро падарожжаў. У Савецкім Саюзе такой арганізацыяй з'яўляецца «Інтурыст».

Нядаўна на Беласточчыне прабывалі прадстаўнікі бюро падарожжаў з сацыялістычных краін: Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Чэхаславакіі і Савецкага Саюза. Адбылася сустрэча з прадстаўнікамі прадпрыемстваў і заводаў Беласточчыны. Усё гэта дзеля таго, каб кантакты людзей працы нашых сацыялістычных краін былі шырэйшымі, каб, адпачываючы, мы адначасова вучыліся адзін ад другога, дзяліліся вопытам. Хопіць сказаць, што калі ў 1971 годзе на цэлым свеце падарожнічала па-за межамі сваіх дзяржаў 181 мільён людзей, дык у сацыялістычных краінах прабывала каля 30 мільёнаў інтурыстаў.

У Савецкім Саюзе прабывала 2,2 мільёна інтурыстаў, з чаго 66 працэнтаў гэта былі турысты з сацыялістычных краін. За межамі сваёй краіны пабывала каля мільёна савецкіх грамадзян.

Турыстычны абмен паміж Польшчай і СССР з кожным годам павялічваецца на 15 працэнтаў. Зрэшты, гэта згодна з Міжнародным дагаворам аб супрацоўніцтве ў галіне турызму ад 15 лістапада 1971 года.

З нагоды 50-годдзя СССР «Інтурыст» падрыхтаваў спецыяльныя праграмы экскурсій. Гасцям прапануецца 19 новых турыстычных шляхоў апрача тых, якія існавалі дагэтуль. Некаторыя з новых шляхоў праходзяць праз 4—5 сталіц саюзных рэспублік, а іншыя прапануюцца тут турыстам, якія хочуць больш падрабязна знаёміцца з гарадамі адной ці двух рэспублік.

Цяпер польскія турысты маюць да выбару 55 турыстычных шляхоў. Найвялікшае зацікаўленне нашых турыстаў выклікаюць асноўныя турыстычныя цэнтры — Масква, Ленінград, гарады Беларусі, Украіны, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі і Прыбалтыкі.

Індывідуальны турызм у СССР арганізуюць польскія бюро падарожжаў і толькі тут можна аформіць справы, звязаныя з выездам поездам, аўтобусам, уласным самаходам. Тыя, хто выбіраецца ўласным самаходам, павінны ведаць, што агульная даўжыня шляхоў складае 12 тыс. кіламетраў. Матарызаваных турыстаў чакаюць добрыя кэмпінгі і матэлі.

Значным поспехам карыстаюцца санатарыйна-адпачынковыя выезды ў СССР. Нашы турысты адпачываюць у Сочы, Піцундзе, Ялце, а таксама ў курортным камбінаце Мінеральныя Воды. У гэтым годзе «Інтурыст» запрапанаваў нам адпачынак у Адлеры і Адэсе. Хутка ў Сухумі пачнуць будаваць гасцініцу на 540 месц для польскіх турыстаў.

А.К.

# Запрашаем

Наблізілася к канцу публікацыя матэрыялаў Вялікага конкурсу «Што ведаеш аб Савецкім Саюзе?» Згодна з конкурснымі правіламі (глядзі: «Ніва» ад 5 лістапада 1972 г.), усе яго ўдзельнікі абавязаны да 15 сакавіка 1973 года прыслаць у нашу рэдакцыю пісьмовыя адказы на пытанні, апублікаваныя ў «Ніве» ад 12 лістапада 1972 г. У пісьме трэба падаць сваё імя, прозвішча і адрас. Сярод даслаўшых пісьмы журы ўстановіць тых, хто даў найбольш правільных адказаў, і ўсіх іх арганізатары конкурсу запросяць на вусныя элімінацыі.

Вусныя элімінацыі адбудуцца 8 красавіка гэтага года. Пытанні будуць адносіцца да матэрыялаў, змешчаных у «Ніве» ў конкурснай рубрыцы «Што ведаеш аб Савецкім Саюзе?» У часе вусных элімінацый журы выявіць пераможцаў, а прадстаўнікі арганізатараў Вялікага конкурсу ўручаць ім прызнаныя адпаведна да здабытага месца ўзнагароды.

Агульная вартасць узнагарод складае 6 (шэсць) тысяч злотых. Сярод іх знаходзяцца: фотаапарат, транзістарны радыёпрыёмнік, ручны гадзіннік, сувеніры і кніжныя ўзнагароды. Запрошаным на вусныя элімінацыі арганізатары конкурсу звернуць кошты падарожжа.

Да ўдзелу ў Вялікім конкурсе запрашаем усіх членаў БГКТ і прыхільнікаў нашай арганізацыі, рабочых, сялян, інтэлігенцыю, студэнтаў, вучняў.

Лісты з адказамі кіруйце па адрасу: Redakcja „Niwy", Białystok, ul. Wesołowskiego 1 з надпісам «Вялікі конкурс».

*Арганізатары Вялікага конкурсу ГП БГКТ і рэдакцыя «Нівы»*



*За вёскаю Старое Ляўкова рэчка, а далей — адвечная Белавежская пушча.*
*Фота Я. Цялушэцкага*

# ІДЗЕ НА ЛЕПШАЕ

У апошнія гады сяляне з Сакольскага павету перавыконваюць свае планы кантрактацыі чатырох асноўных збожжавых культур. Маюць яны таксама добрыя вынікі ў аднаўленні насення на лепшыя сарты. Павялічваецца колькасць пагалоўя быдла і свіней. Нават планы куплі мінеральных угнаенняў павет пачаў перавыконваць, асабліва выдзяляюцца тут сяляне з гмін у Бабіках і Янаве. У гэтай галіне Сакольскі павет наогул займае адно з сярэдніх месц у ваяводстве. Ёсць нямала такіх сялян, якія не прымяняюць поўнага асартыменту мінеральных угнаенняў пад усе збожжавыя культуры (у тым ліку не даюць нават азотных). Пацяшальным фактам з'яўляецца тое, што зараз сельгасгурткі, МБМ-ы і ПОМ-ы пашырылі сваю дапамогу паасобным гаспадаркам. Сельгасгурткі і паасобныя сяляне з году ў год пачалі загаспадарваць усё больш ПФЗ-аўскіх зямельных угоддзяў. З 3.618 гектараў прадалі яны дзяржаве каля чатырох тысяч тон збожжа. Некаторыя сельгасгурткі атрымліваюць даволі высокія ўраджаі збожжавых культур. Напрыклад, сельгасгурток з Гуран атрымаў у мінулым годзе 25 цэнтнераў з 1 гектара. Шпаркім тэмпам пачала развівацца гадоўля быдла, таму на вёсцы пачалі рабіць больш кішонак, даваць больш падсевак і сеяць больш азімых. (ця)

## Беларуская літаратура

# Нашаніўская пара

## «НАША НІВА» Ў АЦЭНКАХ КРЫТЫКАЎ — ЧАСТКА II

«Наша ніва» запачаткавала глыбокі працэс грамадскага, літаратурнага і культурнага руху. Працэс гэты быў істотай беларускага нацыянальнага адраджэння. Даследчыкі і крытыкі часта займаліся гэтым працэсам. Думаю, што чытачам нашым будзе цікава пазнаёміцца з выказваннем на тэму беларускага адраджэння з боку выдатных рускіх вучоных А. Шахматова, Д. Аўсянніка-Кулікоўскага, А. Пагодзіна і беларусаў па паходжанню, але звязаных з рускай навукай Я. Раманава і Я. Карскага.

У 1912 годзе ў Пецярбургскім універсітэце заснаваўся навуковы гурток студэнтаў-беларусаў. У склад гэтага гуртка ўваходзіў, між іншым, пазнейшы важак «Грамады» Браніслаў Тарашкевіч. Гурток гэты быў звязаны з рэдакцыяй «Нашай нівы». Члены гуртка дзейнічалі згодна з апрацаванай праграмай. Гурток ставіў перад сабой мэту «...научного ознакомления с духовной (язык, литература, народная словестность) и общественной (этнография, статистика, народное хозяйство), жизнью белорусского народа». Члены гуртка звярнуліся да названых ужо мною рускіх вучоных з просьбай прымаць удзел у рэалізацыі пастаўленых у праграме мэт.

А. Шахматаў згадзіўся прачытаць цыкл лекцый, прысвечаных беларускай мове. Я. Карскі гаварыў, што «необходимо собирать материал для белорусского словаря в дополнение к изданному словарю Носовича. Необходимо сгруппировать по сюжетам белорусские народные песни и сказки». Карскі баяўся, каб беларускі нацыянальны рух не пайшоў незалежным шляхам ад Расіі і таму заклікаў членаў гуртка да дзейнасці ў сціслай сувязі з рускай культурай. «Улучшить наше благосостояние умственное и нравственное, ведь только и возможно при тесном единении с русской культурой и наукой».

Вельмі шырока і смела патрактаваў беларускую праблему А. Пагодзін. Адказваючы на ацэнку членаў гуртка, вучоны гэты напісаў:

«Белорусской молодёжи. Вы молоды, вам предстоит увидеть в своей жизни ещё столько побед человеческого ума над силами природы. Открытие и изобретения в области техники, новые методы в медицине сделают жизнь и более долгой и более приятной, к сожалению, только от этой жизни внешней настолько отстаёт жизнь идей. Доживете ли вы до того времени, когда насилие над сославием, полом, национальностью, религией не будет почитаться каким-то государственным подвигом, а будет тем, чем оно есть в действительности — глупостью и преступлением» і далей: «Поэтому, как бы не было тяжело в борьбе, не следует ни падать духом, ни оставлять борьбу. Свобода личности, свобода и равенство мужчины и женщины, свобода всякой народности сложится так, как она может, в конце концов победит всякие помехи. Поэтому ваши усилия поднять национальное сознание белорусского народа вызывают во мне живейшую симпатию, независимо от того, удастся ли Вам это выполнить, какие конечные результаты это будет иметь для государства и т.п. Над этим надо работать, потому что для народа нет культурного развития вне его сознания своей национальной самобытности...

...Я приветствую труд белорусской молодёжи, направленный на национальное просвещение белорусских масс, этой идее стоит жить».

Вядомы гісторык літаратуры Д. Аўсянніка-Кулікоўскі свае выказванні аб беларускім руху ўтрымаў у духу, збліжаным да выказванняў Пагодзіна. Падкрэсліў ён, што багацце агульначалавечай культуры залежыць ад багацця нацыянальных культур. У сувязі з гэтым Д. Аўсянніка-Кулікоўскі заахвочваў беларусаў развіваць сваю культуру — як складовую частку культуры агульначалавечай.

Вялікую цікавасць прадстаўляе выказванне вядомага этнографа Е. Раманава, які многія гады свайго жыцця прысвяціў збору беларускага фальклору. Звярнуў ён увагу на неабходнасць далейшага збору беларускай народнай творчасці. Заахвочваў таксама ўзнімаць беларускую вёску на вышэйшы экана-

 




## Гаворкі Беласточчыны

«Беластоцкае ваяводства з'яўляецца шматмоўным, легітымуецца яно чатырма славянскімі мовамі (польскай, беларускай, беларускай — пераходнай да ўкраінскай, рускай) і адной з групы балтыйскай (літоўскай). Кожнай з гэтых моваў адпавядае болей або меней аднародная сукупнасць насельніцтва, якое размаўляе на яшчэ больш унутрана разрозненых відах гаворак», — піша праф. др А. Абрэмбская-Яблонская ва ўступе да нядаўна выйшаўшага з друку зборніка «Тэкстаў гаворак Беласточчыны з моўным каментарыем»*).

Змест гэтага салiднага — у 228 старонак — выдання склалі тэксты польскіх гаворак з Сэйненскага, Сувальскага, Алецкага, Кольненскага, Ломжынскага, Манецкага, Лапскага і Высокамазавецкага паветаў; літоўскіх — з Крэйвянаў і Пунска, Сэйненскага павету; рускіх — з Аўгустоўскага, Сувальскага і Сэйненскага паветаў, а таксама беларускіх-пераходных да ўкраінскіх — з Ягінтаў, Дуброўскага павету, Гліншчаў Малых і Кнышэвічаў, Сакольскага павету, Бабpоўкі, Манецкага павету, Навадворцаў і Тапалянаў, Беластоцкага павету, Грабаўца, Бельскага павету, Дубінаў і Сухавольцаў, Гайнаўскага павету, і Рагаўкі, Сямяціцкага павету. Тэксты запісалі і пракаменціравалі навуковыя працаўнікі Польскай акадэміі навук і вышэйшых навучальных устаноў — члены мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства па ініцыятыве кіраўніка гэтай камісіі праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай.

Публікацыя ставіць сваёй мэтай два заданні: першае — даставіць у карыстанне дыялектолагам навуковы матэрыял аб гаворках з выбраных пунктаў, і другое — пазнаёміць шырокае кола зацікаўленых Беласточчынай з моўнай і этнічнай разнастайнасцю нашага рэгіёну. У сувязі з гэтым тэксты апублікаваны ў большасці паралельна ў навуковай транскрыпцыі і ў спрошчаным запісе. Такім чынам, яны адрасуюцца адначасова і да працаўнікоў навукі і да шырокага кола дзеячоў на ніве культуры і асветы. І гэта апраўдана, бо большасць запісаў — гэта этнаграфічныя матэрыялы, якія маюць вялікую вартасць для азнаямлення з духоўнай і матэрыяльнай культурай сельскага насельніцтва Беласточчыны. Змешчаны ў канцы зборніка прадметны ўказальнік значна аблягчае карыстанне выданнем для этнографаў. Шкада толькі, што зборнік не ўзбагачан слоўнікавым указальнікам — надта ж карысным дапамогай для лінгвістаў.

Побач з асноўнымі публікацыямі таксама вялікую вартасць для ўсіх, хто цікавіцца моўнай і этнаграфічнай праблематыкай Беласточчыны, прадстаўляе сабраная др Э. Смулковай і змешчаная ў зборніку бібліяграфія рэгіянальных, агульнапольскіх і замежных прац, якія поўнасцю прысвечаны моўнай праблематыцы нашага рэгіёну або кранаюць яе пры нагодзе разгляду пытанняў шырэйшага лінгвістычнага аспекту. Сярод звыш 170 пазіцый бібліяграфіі тэмам, звязаным з беларускімі гаворкамі Беласточчыны, прысвечана каля 80 публікацый. Ужо сам гэты факт красамоўна сведчыць аб значным зацікаўленні польскай і замежнай лінгвістыкі беларускімі гаворкамі беластоцкага рэгіёну. У сучасны момант асабліва плённымі даследчыкамі нашых гаворак з'яўляюцца праф. др А. Абрэмбская-Яблонская, праф. др У. Курашкевіч, др Э. Смулкова і др М. Кандрацюк. На жаль, у бібліяграфіі па невядомых прычынах не апынуліся публікацыі, якія датычаць беларускіх гаворак Беласточчыны і выйшлі з-пад пяра заснавальніка беларускай філалогіі акадэміка Я. Ф. Карскага, між іншым: «Некоторые, редкие особенности белорусского наречия в Сокольском уезде Гродненской губ.», РФВ, т. 35, 1896, стар. 220—221; «Заметки по белорусским говорам», РФВ, т. 46, 1901, стар. 275—281; «К вопросу о границе белорусских говоров», РФВ, т. 53. 1905, стар. 55—61; «Отчёт о поездке в Белоруссию в течении летних месяцев 1903 г.» ИРГО т. 41, 1905, стар. 705—736), вядомага абаронцы правоў нацыянальных меншасцей у царскай Расіі і міжваеннай Польшчы, лінгвіста акадэміка Бадуэна дэ Куртэнэ

(„Pieśni białorusko-polskie z powiatu sokólskiego guberni grodzieńskiej" у „Zbiór wiadomości do antrapologii krajowej", t. 16, 1892 i „Dodatek do pieśni białorusko-polskiej z powiatu sokólskiego guberni grodzieńskiej" у „Zbiór wiadomości...", t. 18, 1895),

а таксама сучаснага беларускага вучонага М. Я. Грынблата («Белорусы», Мінск 1968).

Гэтыя, невялікія на самай справе, недахопы не памяншаюць значнай навуковай каштоўнасці і грамадскага значэння «Тэкстаў». Бліжэйшае знаёмства з імі сігналізуе існаванне ў нашым шматмоўным рэгіёне шэрагу надзвычай цікавых і не кранутых яшчэ праблем, якія датычаць узаемасувязяў і ўзаемаўздзеяння паміж чатырма роднаснымі славянскімі народамі, іх мовамі, духовай і матэрыяльнай культурай, а таксама славянамі і літоўцамі. Трэба спадзявацца, што гэтыя займальныя тэмы ў бліжэйшы час увойдуць на варштат польскай і замежнай навукі.

Хоць «Тэксты» і выйшлі надта ж маленькім тыражом — усяго 500 экземпляраў — і ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, усё ж яны дасканалы падарунак, падрыхтаваны мовазнаўчай камісіяй Беластоцкага навуковага таварыства ў гонар Года польскай навукі.

*Мікалай Гайдук*

¹) Teksty gwarowe z Białostocczyzny z komentarzem językowym. Praca zbiorowa pod redakcją A. Obrębskiej-Jabłońskiej, PWN, W-wa 1972.

мічны ўзровень. У гэтых намаганнях раіў Раманаў карыстацца вопытам палякаў. Варта прывесці найбольш характэрныя фрагменты выказванняў Раманава: «С отрадным чувством принял я привет ваш, братенники. Взаимно желаю всем вам скорейшего выступления на дорогу деятелей.

...Что касается работ белорусского научного кружка Санктпетербургского университета, то мне кажется, вам следовало бы прежде всего спасать произведения души родного народа, которые гибнут ежечасно по всей линии, заменяясь пошлыми произведениями фабрики, казармы, города, отхожих промыслов.

...Работайте в экономической области, спасая народ от экономической зависимости, от его врагов, вы спасёте его от духовного порабощения. Следуйте примеру польских масс Привислянского края, устраивайте кооперативы, склады, товарищества, кассы и т.д. и учреждения мелкого кредита.

...Я уже почти старик, а главное, после перенесеной тяжелой болезни не могу работать, как работалось раньше, но вам, братцы мои, следует за всё это горячо взяться. Няўжэ мы ўжэ хужы людзей» (Белорусский научно-литературный кружок С. Петербургского университета).

З прыведзеных цытат дастаткова ясна відаць, як адносіліся прадстаўнікі рускай дэмакратычнай думкі да ідэі беларускага адраджэння, ідэі, узраставшай на глебе, створаной «Нашай нівай».

## ФАЛЬКЛОР




Піць-гу-ляць ма-ла-да-я? З кім я бу-ду піць-гу-ляць ма-ла-да-я?

*Мадавая чарачка, гэй, мадавая!*
*З кім я буду піць-гуляць, маладая?*
*З кім я буду піць-гуляць, маладая?*
*Ой, паехаў міленькі, гэй, у дарогу*
*І пакінуў мілую ніздарову.*
*І пакінуў мілую ніздарову.*
*Ой, прыехаў міленькі, гэй, пуд варота:*
*— Выйдзі, выйдзі, мілая, лучшэй злота!*
*Выйдзі, выйдзі, мілая, лучшэй злота!*
*Ой, ні выйшла мілая, гэй, выйшла маці:*
*— Годзі, годзі, зяценьку, жартаваці...*
*Годзі, годзі, зяценьку жартаваці.*
*Бо ўжэ твая мілая, гэй, наражона —*
*На сасновуй лавоньцы палажона.*
*На сасновуй лаваньцы палажона.*
*На сасновуй лаваньцы, гэй, палажона;*
*Васкавая свечэнька запалёна.*
*Васкавая свечэнька запалёна.*
*Васкавая свечэнька, гэй, запалёна,*
*Глыбока магілушка выкапана.*
*Глыбока магілушка выкапана.*
*Глыбока магілушка, гэй выкапана,*
*Чырвона калінушка пасажона.*
*Чырвона калінушка пасажона.*
*Ой, паехаў міленькі, гэй, да магілы,*
*Прывязаў он коніка да каліны.*
*Прывязаў он коніка да каліны.*
*Прывязаў он коніка, гэй, да каліны.*
*Прытуліў ён сэрдэнько да магілы.*
*Прытуліў ён сэрдэнько да магілы.*

Ад Валянціны Саевіч, 1928 г. нараджэння, вёска Старое Ляўкова, Гайнаўскага павету, запісаў 30 жніўня 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.



## ЗАСЛУЖАНАЕ ДРУГОЕ МЕСЦА

Добра працуе клуб «Рух» пры Доме культуры ў Міхалове Беластоцкага павету. Дзейнасць яго беспасрэдна звязана з дзейнасцю Дома культуры. Клуб добра абсталяваны, прасторны, чысты. Вядзе яго Валя Круліцкая (на здымку). У конкурсе на «Найлепшы вясковы клуб «Рух», які быў арганізаваны ў мінулым годзе, міхалоўскі клуб заняў другое месца ў ваяводстве. Конкурсная камісія пры ягоацэнцы ўзяла пад увагу шырокую і ўсебаковую дзейнасць. У клуб заходзяць усе, а ўжо асабліва моладзь. Маладыя дзяўчаты і хлопцы збіраюцца на сходы, на якіх дыскутуюць, напрыклад, на тэмы: «Калі б ад мяне залежала», «Нашыя равеснікі на свеце», «Ці варта быць лепшым?» і г.д. Дзейнічае тут адзіны ў нашым ваяводстве дыскусійны фільмовы клуб (ДКФ). Налічвае ён больш паўтары сотні асоб і вядзе багатую дзейнасць. Апошнім часам у клубе правёў сустрэчу вядомы польскі рэжысёр Я. Моргенштэрн. Пасля дэманстрацыі яго кінафільма адбылася дыскусія. Рэжысёр адказаў на шматлікія пытанні гледачоў. У клуб прыязджаюць лектары, літаратурныя крытыкі (між іншым, вядомы польскі крытык Рышард Матушэўскі), беластоцкія пісьменнікі, журналісты. На рэпетыцыі прыходзяць у клуб самадзейнікі. Прытым варта адзначыць, што ставяць яны беларускія п'есы. Члены мастацкага гуртка арганізавалі выстаўку рысункаў, прысвечаную 500-ай гадавіне з дня нараджэння М. Каперніка, выдатнага польскага астранома. У клубе экспануюцца кніжкі, а таксама рэпрадукцыі жывапісу савецкіх мастакоў. Наведвальнікам клуба «Рух» надоўга запомніўся шахматны турнір на кубак старшыні ГС-у, у якім прымала ўдзел многа асоб.

На штодзень можна тут прачытаць прэсу, паслухаць добрую музыку з грампласцінак або магнетафоннай плёнкі, выпіць чай або каву.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*

## ДАТЭРМІНОВА — У СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

Асноўнае заданне сельскай гаспадаркі Беласточчыны ў гадах 1973—1975 — гэта павелічэнне колькасці тавараў дзякуючы далейшай інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, асабліва жывёлагадоўлі. Прадбачваецца, што вартасць валавой сельскагаспадарчай прадукцыі нашага ваяводства ў 1975 г. павялічыцца на 27 прац. у параўнанні з 1970 г.

У мінулых гадах было дасягнута шмат станоўчых вынікаў у сельскагаспадарчай прадукцыі. Аб гэтым сведчыць, між іншым, павелічэнне да 22,2 цэнтнера чатырох збожжавых культур з гектара, павялічылася таксама колькасць быдла на кожных 100 га ўгоддзяў, палепшылася структура пасеваў і інш.

Партыйныя і дзяржаўныя органы нашага ваяводства прыйшлі да дывбду, што задачы, прадугледжаныя на 1975 год, можна выканаць датэрмінова. Асабліва датычыць гэта плёнаў збожжа, бульбы, цукровых буракоў і сена, а таксама свінагадоўлі і малочнасці кароў.

Аднак для гэтага перш за ўсё неабходна павялічыць прымяненне мінеральных угнаенняў да 156 кілаграмаў на 1 гектар, г. зн. на 75 прац. больш, чым у 1970 годзе. Каб высокія дозы ўгнаенняў былі карыснымі, неабходна запэўніць добрае насенне, хутчэй развіваць інвентарскае будаўніцтва, зрабіць абмен рас быдла, павялічыць прадукцыю сіласу, далей меліяраваць, электрыфікаваць і т.п.

Намечаны асноўныя напрамкі дзейнасці рад нарадовых, сельскагаспадарчай службы і ўстаноў, супрацоўнічаючых з вёскай. Толькі супольныя намаганні могуць даць добрыя вынікі. (ак)

*Беларуская палёніка*

## Вершы М.Ю. Канановіча

Тыднёвік «Літаратура і мастацтва» ад 26 студзеня 1973 года змясціў падборку вершаў лодзінскага літаратара Мацея Юзафа Канановіча. На беларускую мову творы польскага паэта пераклаў Максім Танк.

Сяброўскія літаратурныя сувязі між лодзінскім літаратурным асяроддзем і беларускімі пісьменнікамі становяцца ўсё больш плённымі.

Варта прыпомніць, што М. Ю. Канановіч з'яўляецца рэдактарам зборніка апавяданняў Янкі Брыля, які ў мінулым годзе выпусціла Лодзінскае выдавецтва. У Лодзі зараз рыхтуюць іншыя публікацыі беларускіх твораў. (вр)



 

## ВЯЛІКІ КОНКУРС




### ЭСТОНСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Эстонская ССР утворана 21 ліпеня 1940 г., увайшла ў Саюз ССР 6 жніўня 1940 г. Тэрыторыя — 45,1 тысячы кв. км, насельніцтва — 1 мільён 391 тысяча асоб. Сталіца — горад Талін (378 тысяч жыхароў).

Эстонская ССР займае паўночна-заходнюю частку Усходне-Еўрапейскай раўніны. Сярэдняя вышыня — 50 м над узроўнем мора, самая высокая частка — узвышша Хання (318 м над узроўнем мора). Уся паверхня рэспублікі пакрыта слядамі ледавіковай дзейнасці. Эстонія на поўначы амываецца Фінскім залівам, на паўднёвым захадзе — Рыжскім залівам і Балтыйскім морам. Марское ўзбярэжжа моцна парэзана, у складзе рэспублікі знаходзіцца каля 800 астравоў і астраўкоў, якія ў заходняй частцы ўтвараюць Заходне-Эстонскі архіпелаг. Самыя вялікія астравы: Сарэма (2671 кв. км), Хіюма (989 кв. км) і Муху (205 кв. км). У Эстоніі звыш 1 тысячы азёраў, сярод якіх найбольшае Чудскае возера. Рэкі кароткія і малаводныя, найбольшая з іх — Нарва. Клімат марскі, пераходны да кантынентальнага.

Важнейшым карысным выкапнем у рэспубліцы з'яўляюцца гаручыя сланцы (каля 60 прац. усіх залежаў у СССР) і торф (запасы яго складаюць звыш 20 мільярдаў кубаметраў). Ёсць таксама фасфарыты, вапнякі, даламіты, мергелі і іншыя выкапні.

Эстонія — рэспубліка з высока развітай індустрыяй і разнастайнымі галінамі прамысловасці. У ёй комплексна выкарыстоўваюцца натуральныя багацці: сланцы (паліва, газ, хімічныя рэчывы), фасфарыты (штучныя ўгнаенні), лес (драўнінная і папяровая прамысловасць), а таксама развіваюцца такія галіны, як: металаапрацоўка, машынабудаванне, электратэхнічная і радыётэхнічная, лёгкая і спажывецкая прамысловасці.

Вядучымі галінамі эстонскай сельскай гаспадаркі з'яўляюцца жывёлагадоўля (беконы, малочнае і ўбойнае быдла, гадоўля быдла і коней на расплод), розныя сельскагаспадарчыя культуры, гадоўля хатняй птушкі, футравых звяроў і пчалярства. Шырока праводзіцца меліярацыя.

Хутка развіваецца марское рыбалоўства і перапрацоўка рыбы.

Эстонскай ССР уласцівы высокі ўзровень культуры. У ёй дзейнічае Акадэмія навук і каля 80 навукова-даследчых інстытутаў і ўстаноў, 6 вышэйшых навучальных устаноў, 37 спецыяльных сярэдніх школ і 766 агульнаадукацыйных школ розных відаў; працуе 9 прафесіянальных тэатраў, кінастудыя «Талінфільм», тэлевізія, радыё; выходзіць 187 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў. Вялікія творчыя дасягненні маюць эстонскія пісьменнікі, мастакі і кампазітары.

(мг)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА




Народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР В. Цвірка нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Радзеева на Гомельшчыне ў сям'і вясковых настаўнікаў. Спецыяльную мастацкую адукацыю ён пачынаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме, а закончыў у Маскоўскім мастацкім інстытуце ў 1942 годзе. Ужо ў 1934 годзе малады мастак прыняў удзел у выстаўцы «Мастакі БССР за 15 год», але росквіт яго творчасці пачаўся ў пасляваенны час.

Значнай вехай у творчай біяграфіі мастака з'явілася сагрэтая шчырым пачуццём палотнішча «Непераможныя» (1947 год), у якім ён паказаў героя-партызана перад пакараннем, але нязломнага духам, не стаўшага перад фашыстамі на калені.

Як сапраўдны майстар гістарычнай народнай карціны В. Цвірка прадстаў перад гледачамі праз дзесяць год у кампазіцыі «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач».

У апошнія гады мастак амаль цалкам прысвяціў сябе пейзажу. Усе лепшыя рысы беларускага пейзажу, лепшыя пошукі беларускіх мастакоў у гэтай галіне В. Цвірка сканцэнтраваў у адзінае ў сваіх палотнішчах. У яго пейзажах заўсёды захоўваецца пачуццё непасрэднай блізкасці да прыроды Беларусі.

Вялікім уміласваннем жыцця прасякнуты яго карціны. Калі вялікі рускі мастак XIX стагоддзя І. Левітан шукаў у рускай прыродзе задушэўнага смутку, то В. Цвірка знаходзіць у прыродзе гучную жыццерадаснасць, далікатна кранаючую патаемныя лірычныя струны чалавечай душы.

Мастак шмат падарожнічае па Беларусі. Ён ездзіць на Гродзеншчыну і на раку Прыпяць, на Браслаўшчыну і на возера Нарач, на Мозыршчыну і ў Палессе, каб прывезці адтуль карціны, напоеныя першым веснавым светам, сённяшняй радасцю і гонарам за красу зямлі беларускай, карціны, звінячыя асеннімі карункамі лісця і белізной звонкай беларускай зімы. У гэтых паездках нарадзіліся дасканалыя пейзажы, як «Беларускі матыў», «Нёман», «Зіма», «Вялікая вада», «Нарач», «Беразіна», «Чорная Ганча», трыпціх «Новая зямля», «Зацвіла вярба», «Беларусь мая», якія з поспехам экспанаваліся на многіх рэспубліканскіх і ўсесаюзных мастацкіх выстаўках.

Можна пазайздросціць лёсу твораў В. Цвіркі. Толькі нарадзіўшыся, яны трапляюць на выстаўку. І больш ужо ў майстэрню мастака не вяртаюцца. Створаныя для людзей, яны і застаюцца сярод іх. З рэспубліканскіх мастацкіх выставак карціны мастака трапляюць на ўсесаюзныя, з усесаюзных яны ідуць на рухомыя і замежныя. Многія яго карціны знаходзяцца ў буйнейшых музеях Савецкага Саюза.

Віталю Цвірку — 60 год. Засталіся ззаду доўгія гады пошукаў і роздумаў. Гады выкладання ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе шэраг гадоў быў ён рэктарам. Многія сённяшнія вядомыя беларускія (ды і не толькі беларускія!) мастакі — яго вучні. Шмат сіл В. Цвірка аддаў грамадскай працы ў Саюзе мастакоў БССР. Быў старшынёй праўлення Саюза, а цяпер з'яўляецца членам праўлення Саюза мастакоў рэспублікі.

*Барыс Крэпак*
*фота Э. Трыгубовіча*


*Народны мастак БССР В. Цвірка.*




### ФАСОЛЯ

Апрача гарохавага ці фасолевага супу, мы на штодзень падрыхтоўваем няшмат страў з фасолі і гароху. А шкада, паколькі яны багатыя мінеральнымі солямі, вітамінамі з групы В, наогул з'яўляюцца яны высокакаларыйнымі, паколькі ў фасолі знаходзіцца шмат бялка, хаця не такога вартаснага, як бялок мяса, яечак ці малака.

Фасолю перад тым, як варыць, трэба перабраць і намачыць у летняй кіпячонай вадзе. Колькасць вады павінна быць у тры разы большая ад аб'ёму сухой фасолі. Добра намочаная фасоля варыцца значна менш. Нельга дадаваць у часе варкі соды, як гэта робяць некаторыя гаспадыні, паводле думкі якіх, фасоля з содай варыцца хутчэй. Фасоля тады, на жаль, страціць свае вітаміны, ды і смаку такога не будзе.

Стравы з фасолі нельга даваць малым дзецям, людзям з хворым жалудкам, цяжарным жанчынам і кормячым маткам, старэйшым людзям.

### КАТЛЕТЫ З ФАСОЛІ

На паўкілаграма фасолі трэба ўзяць адну булку, паўшклянкі малака, адну чайную лыжачку тлушчу, адну цыбуліну, 2 яечкі, соль, перац, дзве лыжкі цёртай булкі і тлушч.

Звараную і адцэджаную фасолю прапусціць праз мясарубку разам з намочанай у муцэ булкай. Дадаць да фасолі падсмажаную на тлушчы цыбулю, соль, перац, сырыя яечкі, усё вымяшаць. З атрыманай масы зрабіць дзесяць катлетаў круглай формы, мачаць катлеты ў цёртую булку, смажыць. Падаваць катлеты з грыбным соусам і салатам.

### ФАСОЛЯ З ГРУДЗІНКАЙ

На паўкілаграма фасолі трэба ўзяць 15 дэкаў грудзінкі (бочку), адну цыбуліну, адну чайную лыжку мукі, паўшклянкі памідорнага соку.

Перабраную фасолю памыць, заліць нанач кіпячонай цёплай вадой. На наступны дзень зварыць у той жа вадзе. Бочак дробна нарэзаць, падсмажыць, дадаць цыбулю і муку, заправіць мяккую ўжо фасолю. У канцы дадаць памідорны сок. Падаваць з бульбай.

### ФАСОЛЯ З ЯЕЧКАМ

На паўкілаграма фасолі «Ясь» узяць 10 дэкаў бочку, 5 яечак, соль. Памытую фасолю намачыць у кіпячонай вадзе, варыць так, каб у канцы вада амаль выпарылася. Пасаліць фасолю, калі яна ўжо зварыцца. Бочак нарэзаць тонкімі скрылёчкамі, палажыць на разагрэтую патэльню, а калі стане шклістым, убіць на яго яечкі. Падаваць фасолю з яечкамі і салатам.

*Гаспадыня*




Вечарам рушылі ў дарогу. Франке пайшоў на паўночны захад з данясеннем падпалкоўніку Грэльхамеру, астатнія пакрочылі назад, туды, адкуль надоечы прыйшлі Альтэнкірх са сваімі спадарожнікамі. Без усялякіх прыгод дабраліся да таго лесу, дзе засталася рацыя, і ў хуткім часе яна была ўжо гатова для работы. Будэр паслаў у эфір шыфраваны апазнавальны пароль, дадаўшы да яго тры кодавыя літары, — яны сведчылі, што радыруе асабіста ён, а не вораг, які мог перахапіць яго шыфр. Тры разы ён паўтарыў выклік, умоўлены час пачакаў і пачуў адказ.

— Ёсць сувязь, — паведаміў ён.

— Перадавайце радыёграму, — сказаў Вайтхазе.

— Прыступаю, — адказаў Будэр і пачаў радзіраваць:

«Група Грэльхамера знойдзена. Тысяча дзвесце чалавек. Вайтхазе на дамоўленым месцы. Патрэбны боепрыпасы для карабінаў і аўтаматаў, гранаты, міны. Харчовыя прыпасы канчаюцца. Заўтра ноччу паведамлю дакладнае месцазнаходжанне, наступнай ноччу чакаем першых грузаў. Запалім сігнальныя вогнішчы».

— Ну, гара з плеч, — з палёгкай уздыхнуў Альтэнкірх. Яму раптам да жудасці захацелася выпіць. — Глытнуць бы зараз каньячку! — усклікнуў ён. — Хіба ж мы не заслужылі шнапсу?

Ён пачаў лаяць тых людзей, якія, рыхтуючы іх у дарогу, надумалі пра ўсё апрача спіртных напіткаў, і праклінаў сябе за тое, што не прасачыў за імі. Дарэмна ён намагаўся ўгаварыць Будэра, каб той пры наступным сеансе сувязі папрасіў тэрмінова прыслаць каньяк. Бутэлькі, сказаў ён, трэба скінуць у асобным кантэйнеры з надпісам, што адкрыць яго мае права толькі обер-лейтэнант Альтэнкірх. Але Будэр адмовіўся — ён не можа перадаваць такія просьбы, у яго іншыя абавязкі. Альтэнкірх яшчэ колькі разоў спрабаваў уламаць Будэра, аднак той быў няўмольны. Нарэшце, Альтэнкірх звярнуўся да Мартынава:

— Скажыце, у вёсках ёсць гарэлка?

Мартынаў адказаў, што на гэта мала надзеі. Раней сяляне самі гналі самагон, але цяпер у іх туга з хлебам і бульбай, і наўрад ці яны зараз гэтым займаюцца.

— Пры першай жа магчымасці патрасу каго-небудзь з сялян, — выхвальна сказаў Альтэнкірх.

Раптам ён адчуў да рускага недавер'е. Можа гэта ён за сваіх заступаецца? Магчыма, Будэр меў рацыю, калі гаварыў пра свае падазрэнні? Альтэнкірх пачаў прыгадваць, як паводзіў сябе Мартынаў апошнія два дні. Ён паслухмяна выконваў усе яго загады, быў паслужлівы, але твар яго нагадваў маску — на ім нельга было прачытаць, што творыцца ў яго на душы. Рускі амаль зусім не ўсміхаўся, ні разу не паказаў страху. «Дарэмна не выпіў я з ім тым вечарам перад адлётам, — папракнуў сябе Альтэнкірх. — Тады б я лепш яго ведаў».

— Мне трэба з вамі пагаварыць, — сказаў ён Вайтхазе. — Давайце адыдзем у бок.

Яны крыху паглыбіліся ў лес і селі. Альтэнкірх не паспеў яшчэ рот адкрыць, як Вайтхазе запытаў:

— Скажыце, гэты ваш рускі, што ён за чалавек?

— Менавіта пра яго я і хацеў з вамі пагаварыць, — адказаў Альтэнкірх і паведаміў яму ўсё, што ведаў пра Мартынава, падкрэсліўшы, што ідэя ўзяць з сабой рускага належала не яму, а аднаму эсэсаўскаму афіцэру. — Аднак, — дадаў ён, — іменна Мартынаў даведаўся, дзе мы апусціліся, нам самім гэта было б цяжка зрабіць, і тым не менш я не давяраю яму.

— Вы хочаце сказаць, — запытаў Вайтхазе, — што, магчыма, ён перакінуўся да рускіх?

— Штосьці накшталт гэтага. У мяне няма ніякіх доказаў, але я маю такое падазрэнне. Ва ўсякім разе, не буду ўводзіць яго ва ўсе падрабязнасці нашых спраў. Шкада толькі, што сёння ён чуў нашу радыёграму. Прапаную ў далейшым такой магчымасці яму не даваць. А калі ён стане нам не патрэбен, мы вызвалімся ад яго.

Апошнюю фразу Альтэнкірх прамовіў так спакойна, што Вайтхазе на нейкі міг узяло сумненне адносна яе сапраўднага сэнсу. Потым ён сказаў:

— Пакуль што чалавек гэты нам патрэбен. А вы, бясспрэчна, маеце рацыю: ён павінен як мага менш быць у курсе справы. Фюрэр ясна сказаў: «Кожны павінен ведаць роўна столькі, колькі яму неабходна для выканання задачы».

Яны вярнуліся ў лагер. Вайтхазе даў некалькі парад, як зручней абсталяваць часовую стаянку і найлепш замаскіраваць яе ад чужых вачэй, і ўсе ўзяліся за справу. Больш за ўсіх стараўся Будэр. Ён паказаў вялікі спрыт у рабоце і, нягледзячы на напружанне апошніх дзён, праявіў зайздросную энергію і вынослівасць. Калі разам з Вайтхазе яны капалі сховішча для прадуктаў,

# ТРЫБУНА чытачоў

## § Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж, які не жыве разам з жонкай, плаціў аліменты на двое дзяцей. За згодай маці ён узяў да сябе адно з дзяцей, аднак маці надалей праз судовага выканаўцу сцягвае аліменты. Ці можна патрабаваць спынення абавязку плаціць аліменты і патрабаваць звароту тых грошай, якія сцягнуты ад мужа пасля таго, калі ён узяў адно з дзяцей на сваё ўтрыманне?

АДКАЗ: Можна патрабаваць праз суд спынення абавязку далейшага ўплачвання аліментаў на дзіця, якое пасля рашэння, якім прысуджаны аліменты, перайшло на поўнае ўтрыманне бацькі. Аднак маці не абавязана звяртаць грошы, якія яна ўжо атрымала. Такое патрабаванне было б абаснавана, калі б пасля разводу муж узяў на ўтрыманне дзіця, на якое дагэтуль плаціў аліменты. Разлічэнні паміж мужам і жонкай да разводу недапушчальны.




### ДВА МІКОЛЫ

Нелад — плята калектыву —
Ўлез ў «Парнасік» ў нашу «Ніву».
Вінаваты ў тым гамолы,
Крытыканты два — Міколы
Із Патокі і Бялок:
«Лінагуз» і «Абібок».
Пазабыў людзей і Бога:
Так празваў адзін другога.
Абражоны Недатыкі
Ўпалі ў жаль і ў гнеў вялікі.
Кішкі тонкі ў іх, а злосці
Панадмерна — поўны косці.
Мікалай за «лінагуза»
«Абібоку» ўлепіць гуза,
Мікалай за «абібока»
«лінагузу» ўлепіць ў вока.
А тады? О Бог вялікі!
Звар'яцелі вы, ці дзікі?
Вы ж пісакі сякі-такі,
А не пеўні-забіякі!
К чаму гнеў — перасцярога!
Не туды, браткі, дарога!
Лозунг нашага народа —
Прагрэс, Праца, Гонар, Згода.
Гэта тычыцца і вас,
Два Міколы!

*Дзядзька Квас*

### АНІ

Эх, хацеў бы я зоркі на небе лічыць
Цэлую ноч, аж да самага рання;
Пра ўсё на свеце забыць,
Толькі разам з Табою, любая Аня,
Быць і сэрца сваё супакоіць,
Што ў грудзях так інтымна працуе;
Душу шчасцем, каханнем напоўніць,
Як усмешкай мяне пачастуеш;
Сядзець і глядзець у Твае вочы,
Бліжэй да Цябе прытуліцца
І ў поціску моцным, балючым
Пацалункам гарачым злучыцца.

*Міхась Гаротны*

---

апошні пацікавіўся, хто Будэр па спецыяльнасці. Уласна кажучы, булачнік, адказаў Будэр, але кім толькі ён не працаваў — і батраком, і фурманам, і конюхам у цырку, падсобным рабочым на хімічным заводзе, пракладчыкам чыгуначных пуцей.

— А дзе навучыліся радыёсправе?

— У арміі. Каб у дзяцінстве я ведаў, што на свеце ёсць такі занятак, мяне б і дзесяць коней не адцягнулі ад яго. Радыё для мяне — усё.

— Чаму вы самі падрадзіліся ўдзельнічаць у гэтай аперацыі?

— На такія справы я сам ужо больш не напрошваюся. Мяне назначылі.

— Чаму іменна вас?

— Таму, што па-першае, я класны радыст. Па-другое, я некалькі разоў трапляў у такія пераплёты, што толькі цудам выбіраўся з іх, і начальства вырашыла, што я ўзорны салдат, і раз за разам пасылала мяне ў самае пекла. Сталінград, Чаркасы і іншыя, не памятаю ўжо, як там яны называюцца, райскія мясціны. Тым часам я сабраў багаты ўраджай узнагарод і атрымаў тры раненні, але палічыў бы за лепшае, каб начальства паступова забылася, што я ўзорны салдат.

Вайтхазе засмяяўся:

— Для такога задання, як гэтае, вы чалавек самы падыходзячы.

— І я так думаю, — пагадзіўся Будэр. — Потым мне дадуць не меней як чатыры тыдні водпуску. Ці не так?

*(Працяг будзе)*

### МІНУЛЫ ГОД БУДАЎНІКОЎ

Добра папрацавалі ў мінулым годзе будаўнікі нашага ваяводства. Прадпрыемствы, якія аб'ядноўвае Беластоцкае будаўнічае аб'яднанне, перавыканалі свае планы. Прадукцыйнасць працы павысілася амаль на 9 працэнтаў.

Як справа выглядае, калі возьмем пад увагу колькасць пабудаваных кватэр і прадпрыемстваў? У мінулым годзе перададзена ў карыстанне 3.400 новых памяшканняў. І хаця гэтага замала ў адносінах да патрэб, трэба аднак сказаць, што ў параўнанні з папярэднім годам гэта абазначае на 16,6 прац. кватэр больш.

Насельніцтва Беласточчыны атрымала прамысловыя прадпрыемствы, вартасць якіх 810 мільёнаў злотых, гэта між іншым, фабрыка сталяркі ў Саколцы, малачарня ў Моньках і Кольне, аб'екты «Гаймаклесу» ў Гайнаўцы, бальніца ў Лапах і інш. (ак)

### СОП НА МЕСЦЫ

У Дубічах Царкоўных працуе ўжо ашчадна-пазыкавы кааператыў (СОП). Сялянам з Дубіцкай гміны добра: на месцы могуць дастаць пазыку, або купіць у форме пазыкі мінеральныя ўгнаенні. Таксама і іншыя сялянскія справы, звязаныя з гандлем, праходзяць праз гэтую ўстанову. Напрыклад, хутка можна будзе тут атрымліваць грошы за прададзеныя саламяныя каробкі. А плятуць іх шмат у тутэйшых вёсках.

*М. Панфілюк*




Дарагое «Сэрцайка»!

Жыву я на вёсцы. Разам з бацькамі працую на гаспадарцы. Маю яшчэ дзве сястры, але яны паканчалі школы і працуюць у горадзе. Я таксама закончыла сельскагаспадарчы тэхнікум, але засталася на вёсцы. Люблю я вёску і працу на гаспадарцы. Больш як паўгода таму назад была я на вяселлі ў сяброўкі, з якой вучылася ў школе. Там я пазнаёмілася з адным хлопцам. Ён мне вельмі спадабаўся. Пісаў да мяне лісты, часта прыязджаў, гаварыў, што кахае мяне, гаварылі мы і аб супольных планах на будучыню. Аб усім гэтым ведала мая сяброўка Ніна. У мяне перад ёй не было ніякіх таямніц — лічыла я яе сардэчнай сяброўкай. Разам мы чыталі ўсе лісты ад Юркі. Калі Юрка прыязджаў да мяне, яна абавязкова прыходзіла. Праўда, выкручвалася перад ім, апраналася як найлепш, але я нічога не дадумвалася — гэта ж сардэчная сяброўка. Але вось аднойчы была ў нашай вёсцы забава. Пайшлі мы ўтраіх. І тут я ўбачыла, што Юрка больш цікавіцца Нінай, чымсьці мной. Часта з ёю танцуе, а са мной толькі некалькі разоў затанцаваў. Пасля забавы мы правялі сяброўку дамоў, а самі пайшлі да мяне. Рана Юрэк ад'ехаў дамоў і больш ужо да мяне не прыехаў. Сяброўка таксама ўжо да мяне не прыходзіла. Я даведалася, што Юрэк ездзіць да Ніны. Неўзабаве яны пажаніліся. А я засталася адна. Крыўдна мне. Не веру я ўжо ні ў каханне, ні ў сяброўства. Нядаўна прыехаў да мяне ў сваты хлапец з суседняй вёскі. Прапанаваў, каб выйшла я за яго замуж. Але я не згадзілася. Бо і як магла згадзіцца, «Сэрцайка», калі ж я яго не кахаю. Бацькі гневаюцца на мяне за гэта, кажуць, у старых дзеўках застануся. Што ты, «Сэрцайка», на гэта? Я і сама ўжо не ведаю, ці добра зрабіла, што адмовілася, ці выходзіць ужо абы за каго?

*Зіна з Бельшчыны.*

Зіна! Сапраўды прыкрасць цябе спаткала. Падвяла і сяброўка і нарачоны. Але не падай духам. Іх паводзіны сведчаць, што не салідныя гэта людзі. Разумею, што прыкра табе, бо ты кахала Юрку. Але ты яшчэ маладая, напэўна спаткаеш хлопца, якога пакахаеш, а выходзіць замуж абы за каго не раю. Лепш пацярпець крыху, чымсьці цэлае жыццё. Не можа быць шчаслівай сям'і, калі няма кахання.

*Сэрцайка*

## ЯНЫ НЕ ТОЛЬКІ ВУЧАЦЦА...

Добрыя традыцыі мае школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ЗСР) у Тапалянах Беластоцкага павету. Школа заснавалася ў 1961 годзе. Цяпер вучыцца ў ёй 25 асоб, пераважна дзяўчат, якія даязджаюць сюды нават з далейшых мясцовасцей — з Міхалова, Гарадка, Радуніна, Геранімова і іншых. Зімой некаторыя з іх наймаюць сабе кватэры.

Дзяўчаты асабліва любяць заняткі, якія вядзе інструктар Надзя Азябла. Вучыць яна іх кулінарыі і кравецтву, што вельмі патрэбна кожнай маладой дзяўчыне. Дзяўчаты вучацца варыць (нават для хворага на дыецe), спячы торт, хрусты, пончыкі, як зрабіць з агародніны салат, іншыя блюды са свежай агародніны, як прыняць гасцей. Апрача таго Надзя Азябла вучыць іх шыць блузкі, фартушкі, а нават нагавіцы.

У ЗСР вучаць таксама іншыя настаўнікі: дырэктар Ніна Вазнеўская (настаўніца з 20-гадовым педагагічным стажам), Ірэна Канецкая (паланіст), Галіна Аўсейчык (вядзе заняткі па прафесіянальнай падрыхтоўцы), Зофія Краўчук (вядзе ўрокі па матэматыцы), Мікалай Краўчук (вучыць рускай мове і вядзе светліцовыя заняткі), Станіслаў Гаеўскі (вядзе заняткі па фізіцы, хіміі і па фізкультуры).

Жыццё вучняў тапалянскай ЗСР далёка не манатоннае. Моладзь арганізуе розныя культурныя мерапрыемствы, на якія запрашае вучняў з засаднічай школы механізацыі сельскай гаспадаркі (ЗСМР) у Міхалове. Арганізавалі яны супольны навагодні баль, «Анджэйкі» і іншыя супольныя мерапрыемствы. Хлопцы свой вольны час ахвотна выкарыстоўваюць на заняткі ў школьнай фатаграфічнай лабараторыі, ходзяць катацца на замерзшым ставе. Лёд тут чысты, бо школьнікі ачысцілі яго ад снегу. Апрача таго, моладзь падключыла сюды электрычнае асвятленне, радыёфонію завяла, а нават пабудавала снежныя домікі, у якіх можна, захіліўшыся ад ветру, адпачыць (глядзі здымак). Некаторыя хлопцы і дзяўчаты вучацца катацца на фігурных каньках.

*Тэкст і фота (ця)*



*Снежныя домікі.*

*Вёска раўняецца да горада*

### ТЭЛЕВІЗАР У ХАЦЕ

Дубяжын у Бельскім павеце з'яўляецца напэўна адной з найбольш сучасных вёсак Беласточчыны. Новая, чыстая, прасторная. Людзі ветлівыя, сімпатычныя, усміхаюцца. У хатах і на панадворках відаць дастатак і акуратнасць. Людзі тут працы не цураюцца і працаваць любяць. А той хто пільна працуе і ўмее ашчаджаць, той і мае.

Пры заможнасці растуць і духоўныя патрэбы людзей. Найлепшы доказ гэтаму, што людзі ў Дубяжыне чытаюць многа «Нівы» і што ў кожнай другой хаце (статыстычна беручы) ёсць тэлевізар. Дубяжынцы адважна прымаюць дасягненні сучаснай тэхнікі і культуры, смела ўваходзяць у шырокі свет і шпаркім крокам раўняюцца з горадам. (вл)




*Яўген Андрэюк, Рыбалы.* Верш «Падумай» і апавяданне «Фінал» надрукуем.

*Міраслаў Busловіч, Аўгустова.* Ваш Іван сапраўды хуліган, але і вобраз пана не выхаваўчы: б'е малога (хоць і хулігана) палкай. Так нельга ў нас.

*Васіль Асеннік, Бельск.* Пішаце: «Па распыленай дарозе ішлі сабе салдаты. Сярод іх шум дый годзе, у руках аўтаматы». Распыліць можна духі, а не дарогу. Ды які сярод іх быў шум (і чаму) невядома. І «годзе» навошта? Рыфма да «дарозе»»? Пішаце далей: «Ішлі яны за лес зялёны, цягнік высадзіць у паветра, там былі іх эшалоны. — Не бярэ іх нетра». Высадзіць цягнік у паветра нельга. Высадзіць можна кагосьці з цягніка. Ды і хто падрывае свае эшалоны? І якая іх «нетра» мела ўзяць? Зноў рыфма да «паветра». Рыфма павінна выходзіць са зместу, іх сэнс не вонкавы, яны ўзмацняюць думку. «Вясна» лепшая. І гэты верш надрукуем.

*Ніна Матысюк, Гайнаўка.* «Летнюю ноч» і «Вясну» надрукуем.

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Sól ziemi czarnej'' (polski), 6—7. „Poszukiwanie'' (hisz.), 8—9. „Zaraza'' (polski), 10—11

**Нараўка**
„12 krzeseł'' (radz.), „Perła w koronie'' (polski) 7—11

**Нарва**
„Życie rodzinne'' (polski), „Bajka o zmarnowanym czasie'' (radz.) 7—11.

**Чыжы**
„Przez pustynię'' (meks.), „Szerokiej drogi kochanie'' (polski), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**
„Kupujemy wóz strażacki'' (NRD), „Szklana góra'' (polski), 7—11.

**Арэшкава**
„Wujaszek Wania'' (radz.), „Wojenka, wojenka'' (rumuński), 10—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Pamiętnik szalonej gospodyni'' (USA), „Bitwa o Kozi Dwór'' (polski), 7—11.

**Орля**
„Trup w każdej szafie'' (czeski), „Bajka o Mrozie Czarodzieju'' (radz.), 7—11.

**Райск**
„Gangsterzy i filantropi'' (polski). „Ostatnia gra Karima'' (radz.), 7—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Niezawodni przyjaciele'' (rumuński), 6—7. „Gang Olsena'' (duński), 8—9. „Księżniczka Czardasza'' (węgierski), 10—11.

**Шудзялава**
„Czarownica z bagien'' (radz.), „Trzecia część nocy'' (polski), 7—11.

**Янаў**
„Początek nowego świata'' (rumuński), 7—11.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Zwariowałeś Toni'' (czeski), 6—7. „Zwariowana noc'' (polski), 8—9. „Tam, gdzie rośnie zielony bór'' (jugosł.), 10—11.

**Мельнік**
„Hełm Aleksandra Macedońskiego'' (radz.), 6—7. „Zabijcie czarną owcę'' (polski), 8—9. „Kopernik'' (polski), I i II cz., 10—11.

**Мілейчыцы**
„Noc bez końca'' (bułg.), 6—7. „Popierajcie swego szeryfa'' (USA). 8—9. „Sąsiedzi'' (polski), 10—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

„Kopernik'' (polski), I i II cz. „Komedia pomyłek'' (polski), 7—11.

**Новы Двор**
„Ostatnia gra Karima'' (radz.), „Podróż za jeden uśmiech'' (polski) 7—11.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'', Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7.592 K-1

# ЯК МУЖЧЫНЫ ДОРАЦЬ КВЕТКІ

Не смейцеся так скептычна, прачытаўшы назву — такое бывае і ў наш дзелавы век. Хіба вы ніколі не бачылі хлопца, які з букетам кветак спяшаецца на спатканне? Цікавы малюнак, ці не так? Мне такі хлопец нагадвае істоту з іншага свету. Ён і сапраўды нагадвае прышэльца, бо многія маладыя людзі лічаць старамодным у наш час ісці па вуліцы з букетам кветак. Занадта ўжо гэта смешна і не модна, кажуць.

Большасць з іх не дорыць жанчынам кветак прынцыпова. Замест кветак яны падносяць сваім каханым пліткі шакаладу. Альбо яшчэ флакончык адэкалону — заўсёды аднаго і таго ж гатунку.

Вядома, не ўсе маладыя людзі такія — гэта было б жахліва. Ёсць яшчэ і сёння хлопцы, якія радуюць сваіх каханых кветкамі. Але паглядзелі б вы, як яны гэта робяць!

Спаткаў я неяк свайго сябра. У руках у яго была вялізная кардонная скрынка з дзіркамі.

— Што гэта ў цябе? — пытаюся

— Глупства, — сумеўся ён. — Нясу сяброўцы букет ружаў. Хутка ў нас заручыны.

— Дык ты ружы ў скрынку схаваў?

— А што ж ты хочаш, каб на мяне ўсе азіраліся?

Вось якія яны, сучасныя рыцары! Пяшчотныя кветкі хаваюць у кардонныя скрыткі! І для чаго? Каб з іх, бачыце, не смяяліся! Ды гэта яшчэ што?! Іншыя ж маскіруюць букет пад торт, хаваюць кветкі пад крысо паліто, іншыя дыпламатнічаюць і пасылаюць кветкі каханым праз бюро добрых паслуг. На якія толькі хітрыкі не пускаюцца кавалеры, каб падарыць каханым кветкі і пры гэтым не падарваць свайго аўтарытэту!

Шчыра кажучы, я лічу такія метады ўстарэлымі. Можа таму, што сам я нясу букет для сваёй феі, звычайна, у... партфелі.



— *Бабуля, я да цябе прыйду на абед, бо татка сёння сам гатуе.*



*Без слоў.*





**Талавaломка**





З сямі прадстаўленых адрэзкаў толькі тры можна поўнасцю ўлажыць на фігуру ў левым верхнім куце рысунка. Якія гэта адрэзкі?

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ЯКОЕ ЗНАЧЭННЕ?

— Вы падумайце, фру Олсен, піва зноў падаражала!
— Для мяне гэта не мае значэння, фру Хасен, я ўдава.

### КАЛІБР

Перад самым закрыццём у краму, дзе гандлююць агнястрэльнай зброяй, урываецца маладая жанчына.

— Мне патроны для пісталета! Тэрмінова!

— Калібр? — пытаецца прадавец.

Жанчына змерала позіркам прадаўца.

— Прыкладна ён такога ж самага росту, як і вы, але крыху таўсцейшы.

**МІНІБАЙКІ**

### АБ СУСТРЭЧАХ

Часам сапраўднае каханне пачынаецца выпадковай сустрэчай. Аднойчы авечка зусім выпадкова сустрэла ваўка...

Пазбягайце выпадковых сустрэч.

### ЗЯЗЮЛЯ

Зязюля выйшла замуж за пеўня, нарадзіла яму пяцёра індычат, а сама ўцякла з паўлінам.

Мараль — усе мужчыны аднолькавыя.

*М. Азаў, У. Ціхвінскі*



*Вы пракалолі маё сэрца!*

*...у яе былі залатыя рукі — усе ў бранзалетах і пярсцёнках.*

*... — Пеўні ўсе хворыя на курыную слепату, — уздыхнула качка.*

### ЁН ВЕДАЕ

— Жанчыны пераносяць боль куды больш стойка, чым мужчыны.
— Адкуль вы ведаеце? Вы лекар?
— Не, прадавшчык абутковага магазіна...

### ЧАМУ?

— Чаму так марудна развіваецца жаночы футбол?
— Нічога дзіўнага! Не так проста знайсці адзінаццаць жанчын, якія згадзіліся б выступаць у аднолькавых касцюмах.

### НЕ ТОЙ ПАРТНЁР

— Згуляў бы ў шахматы, ды няма з кім.
— А ты жонку сваю навучы.
— Э, не...
— Чаму?
— Я яе ў шашкі навучыў, дык яна ўвесь час мяне абыгрывае.



**МІНІВЕРШЫ**

### ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Дваццаты век даўно стаў гістарычным.
Яго ўсе любяць, хоць бываюць скептыкі.
Мужчыны ў захапленні: — Век касмічны!
Жанчыны ж рады: — Гэта век касметыкі!

### ПЕРАБЛЫТАЎ

Як сеў за стол, ён жонцы ціснуў ногі
І вырашыў паставіць мужу рогі.
Крывіўся ж муж чамусьці: — Не магу,
Ці хутка скончыш ціснуць мне нагу?!

*Мікола Вяршынін*

### КАБ ЧЫРВАНЕЛА?!

Восьмага сакавіка сусед павіншаваў суседа са святам, а далей кажа:
— А навошта вы столькі гарэлкі накупілі? Жонка ў вас зусім не п'ючая...
— А як жа! Каб на жаночае свята ды жонка чырванела з сораму, што не мае чым свайго мужа пачаставаць?!

### НЕ ЦІКАВІЛАСЯ

Ну, як вашы новыя суседзі, мадам?
— А я імі яшчэ асабліва не цікавілася. Знаю толькі, што ў яе двое каханкаў, а ён тры разы сядзеў за кратамі. А больш нічога і не ведаю!

### ЯК?

Начальнік сакратарцы:
— Калі вы пазванілі маёй жонцы і сказалі, што я застануся дапозна на рабоце, як яна зарэагавала?
— Яна спытала: «Ці магу я цвёрда на гэта разлічваць?»



— *Ну і дысцыпліна! Амаль яшчэ паўтары гадзіны працы, а наша сакратарка дамоў пайшла.*

### ЧАМУ?

— Чаму ты называеш Пятра баявым сябрам? Вы што, разам ваявалі?
— Не, мы ў адзін дзень пажаніліся.



*Сардэчныя размовы.*





### РУЖЫ І КАЛЮЧКІ ЖАНОЧАГА ФУТБОЛА

Матчы жаночых каманд вельмі «гарачыя» для таго, каб іх судзілі мужчыны — да такога вываду прыйшла асацыяцыя футбола графства Дэрбішыр. Члены таварыства футбольных суддзяў гэтага графства катэгарычна адмовіліся ад удзелу ў жаночых матчах, заявіўшы, што «перагаварыць» футбалістак проста немагчыма. Акрамя таго, яны вельмі какетнічаюць пры назначэнні штрафных удараў і нават спрабуюць... абняць арбітра. Але самае цяжкае здараецца, калі прызначаюць пенальці: «пацярпеўшыя» пачынаюць плакаць. А хто ўстаіць перад жаночымі слязьмі?..

Сакратар таварыства суддзяў Фрэнк Харвуд дадаў, што лексікон футбалістак у час гульні не адрозніваецца ад «салёнай» мовы каманд гарнякоў.

Аднак сакратар жаночай футбольнай лігі Дэрбішыра Аніта Мозлі адвергнула ўсе нападкі. На яе думку, суддзі проста недастаткова цвёрдыя. Ва ўсякім разе, пакуль што з поля была выдалена толькі адна футбалістка...

### ВАЛАСЫ З ТВАРУ!

У штаце Кентукі (ЗША) чыноўнік адмовіўся заключыць шлюб паміж парачкай хіпі. Прычына наступная: па існуючым у гэтым штаце закону, у час здзяйснення абраду заключэння шлюбу чыноўнік «павінен бачыць твары ўступаючых у шлюб».

### ПОШУКІ

У французскім журнале «Гастраном» з'явілася аб'ява: «Ваджу аўтамабіль, езджу вярхом, плаваю і іграю ў тэніс. Шукаю для магчымай жаніцьбы маладога чалавека, які ўмее гатаваць».





*Жанчыны, беражыце мужчын! Не дазваляйце ім насіць вас на руках.*